род, той не захоча, каб ён быў прылучаны да Польшчы, дзе нашаму сяляніну ня толькі не дадуць балей зямлі, але яшчэ маняцца адабраць і тую, якую ён цяпер мае. Не дарма палякі аблічылі, што на беларускую зямлю яны змогуць перасяліць да да 10-х міліёнаў сялян з Польшчы, не дарма аб гэтым у Польшчы пішуць польскія газэты і закладаюцца таварыствы дзеля дзяльбі беларускай замлі між сялянамі з Польшчы. Мы верым, што беларускі народ пазнае ману польскіх паноў і іх наймітаў і за непрыяцелямі сваймі ня пойдзе. Дык ясна, што з польскімі панамі-здраднікамі і Польскім Камітэтам нам, беларусам, не падарозе.

Але ёсьць другія нацыянальнасьці нашага краю, з каторымі беларусы могуць разам працаваць дзеля агульнага дабра іх народаў. Перш-на-перш ліцьвіны. Мы ня будзем казаць аб тым, што спрадвеку беларусы з ліцьвінамі жылі разам, што мелі калісь разам адно гасударства, Вялікае Князьства Літоўска-Беларускае, што разам пралівалі кроў, баронячыся ад непрыяцеляў і, што найважнейшае, ніколі адны адных ня крыўдзілі, — бо йдучы з кім на супольную працу мы павінны глядзець больш на цяперашняе палажэньне, чымся на мінуўшчыну, але зьвярнуць на гэта ўвагу трэба, бо з таго, што было, мы часта пазнаём тое, што будзе. Але найважней—гэта цяперашняе палажэньне. Беларускі і літоўскі народы гэта бязмална ўсе гарапашнікі сяляне ды мяшчане. Палітычнае палажэньне абодвух народаў блізу так сама аднолькавае, мы маем таксама адных і тых самых прыяцеляў і непрыяцеляў, дык няўжо-ж два працоўныя братнія народы ў гэты страшны час не пададуць адзін аднаму рукі? Апрача гэтага, мусіць нідзе літоўскае грамадзянства не сустракае гэткага вялікага спагаду да свае працы, як у беларусаў і наадварот. Даволі двом, ліцьвіну і беларусу зысьціся між сабой, як яны разумеюць адзін аднаго і гатовы памагаць адзін аднаму. Дык чаму-ж дагэтуль няма супольнай згоднай работы між гэтымі народамі?

Каб народы маглі разам працаваць, трэба каб іх нацыянальныя прадстаўніцтвы паразумеліся між сабой. Шмат наракаюць на літоўскае прадстаўніцтва Літоўскую Тарыбу (Раду). Пэўне што: ў гэтых нараканьнях ёсьць шмат праўды, хоць ёсьць і няпраўды. Але якое гэта беларусам і іншым дзела да таго, якое літоўскі народ мае прадстаўніцтва? Пакінем самым ліцьвіном думаць добрае ці не ў іх прадстаўніцтва і, наверце, літоўскі народ патрапіць мець сабе такое прадстаўніцтва, якое яму падабаецца. Дык усе народы нашага краю, калі яны хочуць контакту і згоды з літоўскім народам, хочуць з ім разам працаваць, павінны ісьці на працу з тым прадстаўніцтвам, якое ў данную часіну літоўскі народ мае. Пакінем кожнаму народу самому думаць аб сваім прадстаўніцтве, бо толькі пры гэткіх варунках магчыма агульная творская праца. Справа можа быць толькі ў тым ці падыходзяць варункі, на каторых магчыма супольная праца, бо калі варункі падыходзяць, то ніякай іншай перашкоды не павінна быць.

Таксама і жыды разам з ліцьвінамі і беларусамі павінны прыступіць да агульна краёвай работы. Гэтага вымагае іх інтэрэс і мы вэрым, што гэта скора настане.

Навет з паміж палякоў далёка ня ўсе хочуць аддаць у няволю наш край, жадаючы прылучыць яго да Польшчы. Ладная частка з паміж тутэйшых палякоў, як чуваць, стаіць на грунце незалежнасьці Літоўска-Беларускага гасударства і хоча працаваць у гэтым кірунку.

Дык беларусы, ліцьвіны, жыды і лепшая частка з паміж палякоў павінны не агіляючыся ўзяцца да агульнай работы над арганізацыяй краю.

## Сьпешная работа.

Увесь народ разумее, што цяпер асаблівы час для работы, ч с каторы канечна трэба выкарыстаць, бо калі цяпер ня выкарыстаем, то другі гэткі ці будзе калі. Цяпер мамэнт, у каторы працоўны беларускі народ найлягчэй можа дайсьці сваіх справядлівых дамаганьняў. Разам з гэтым цяпер час і найбалей небаспэчны, як дзеля непрыяцеляў звонку, так і з сярэдзіны. Ня гледзячы на заяву польскага новага ўраду, што Польшча ні зачэпіць ні Беларусі, ні Літвы, мы, беларусы, ня можам быць баспэчны з польскага боку. Тое, што дзеецца цяпер у Галічыне, дзе палякі забіраюць чыста украінскія месты і забіваюць украінцаў на іх-жа, ўкраінскай, зямлі, павінна нас як найляпей пераканаць, што польскаму, хоць і соцыялістычнаму ўраду, мы ня зусім можам верыць.

З усходу надыходзіць большэвіцкае страхацьцё, ды падымае ўжо навет галаву рускі царызм.

Гэтак з аднаго боку надзея паправіць сваю долю, з другога боку небаспэчнасьць перад заходнімі і ўсходнімі непрыяцелямі павінна заставіць беларусаў прыняцца за сьмелую і энэргічную работу. Беларускі народ даволі мае сілы, каб абараніцца ад усіх сваіх непрыяцеляў. Кожная сіла павінна стаць цяпер жывой і дзейнай. Злучэньне ўсіх беларускіх сіл над арганізацыяй і усьведамленьнем свайго народу дасьць у хуткім часе свае добрыя рэзультаты. Рэволюцыя зрабіла ўжо тое добрае, што яна сарвала блеск з панства. Цяпер пан у народу мае не вялікшую пашану, чымсі кожны другі чалавек, а то яшчэ і меншую. Але трэба яшчэ, каб народ адчыніў свае вочы і зразумеў тую вялікую ману, якой польскія паны, ды маскоўскія чыноўнікі туманілі, дый яшчэ дагэтуль туманяць галовы нашых гаротных людзей. Калі народ зразумее ўсю тую вялізную няпраўду, у якой яго дзяржалі дагэтуль, то ён тады стане на дарозе да свайго шчасьця. Усё панскае балота будзе адкінена і астанецца толькі будаваць новае жыцьцё, беларускае. Беларускі народ, вольны ад панскага зьдзеку, заложыць аснову для вольнай будучыны, у каторай ён сьмела з паднятай галавой, адкінуўшы фальшывы стыд свайго роднага, будзе ўважаць у сябе чалавека і беларуса.

Разам з усьведамленьнем народу павінна ісьці і арганізацыя яго, каб на нас нашыя непрыяцелі не напалі зьнячэўку. Сьвядомыя беларусы павінны зараз-жа нарыхтаваць арганізацыю валасных беларускіх Радаў (бо якія могуць быць у Беларусі валасныя Рады, калі не беларускія?) Дзеля гэтага патрэбна ў кожнай вёсцы ад 10 або 20-х хат выбраць па аднаму чалавеку ў валасную Беларускую раду. Вёскі, у каторых меней за 10 або 20 чалавек, павінны злучыцца з другімі вёскамі для выбараў прадстаўніка ў валасную Раду. Валасная Рада выбірае з паміж сябе старшыню, яго памочніка, пісара і скарбніка, каторыя і складаюць валасны камітэт. Валасная Рада пастанаўляе, а камітэт спаўняе пастановы Рады. Валасныя камітэты глядзяць за парадкам у воласьці, арганізуюць міліцыю і інш.

Валасныя Рады выбіраюць з паміж сябе паветавыя Рады, а паветавыя Рады зьвязаваюцца з Літоўска-Беларускім урадам.

*П. Станіч.*

## Для падпішчыкаў.

*Дзеля таго, каб нашы падпісчыкі на правінцыі атрымлівалі „Гомана“ акуратна, яны павінны* **падпісывацца на газэту праз свайго старшыню (Amtsvorsteher) або праз Kreishauptmann'a.** *Іначэй почта газэты не перасылае.*

*Адміністрацыя.*

## Закон аб правох і павіннасьцях Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі прыняты Радай Б. Н. Рэспублікі на пасяджэньні 11-га лістапада 1918 году.

§ 1. Да канчальнага азначэньня спосабу праўленьня, урадовая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе

*І. Сербаў.*

# Аб беларускай народнай песьні.

(Гл. „Гоман“ № 93).

II.

**Бытавая песьня.** Бытавая беларуская песьня яшчэ багацейшая і рязмявіцейшая за абрадную. Усё жыцьцё беларуса як-бы скрысталізавалася ў яго песьні. Калі аб жыцьці асобнага чалавека кажуць, што жыцьцё пражыць—ня поле перайсьці, дык што-ж можна сказаць аб жыцьці цэлага народу з багатай мінуўшчынай. Усе важнейшыя часіны ў жыцьці чалавека, прыкладам: радзіны, вясельле і сьмерць, — беларус адбывае з вядомымі сьвяткаваньнямі з абрадамі і песьнямі. Ен таксама прадставіў у песьнях сваю цяжкую працу, і часіны супачыўку, сваё гора і радасьць.

**Песьня ля калыскі.** Беларуская песьня ля калыскі ўва ўсіх адносінах дужа харошая. Супакойна і абразова апавядаючы аб жыцьці ката-варкота, яна забаўляе, цікавіць дзіцянё і разьвівае яго думаньне. Самы тон песьняў ля калысак супакойны, наводзячы сон:

Пашоў коцік
У лясок,
Нашоў чырвоны
Паясок.
— Я сам трошкі
Панашу,
Дай Сёмачку
Падару!
Пашоў коцік
Пад мосьцік,
Схапіў рыбку
За хвосьцік.
— Я сам трошкі
Укушу,
Усё дзіцятку
Прынясу!
Пашоў коцік
На рынак,
Купіў вузёл
Скарынак.
— Я сам трошкі
Укушу,
Дай Сёмачку
Прынясу!
Пашоў коцік
На таржок
Купіў белы
Піражок.
— Я сам трошкі
Укушу,
Увесь дзіцятку
Прынясу!
Пашоў коцік
На ганак,
Нашоў вясла
Баранак.
— Я сам трошкі
Укушу,
Дай Сёмачку
Прынясу!
Сьпі, дзіцятка
Малое,
Засьні вочка —
Другое!
А псік коцік —
Варкота!
На Сёмачку
Сон драмота! [1])

* * *

Было ў бабкі
Чатыры валы.
Прышлі к бабцы
Чатыры купцы.
— Прадай, бабка,
Воліка!
— Каторага,
Купчыкі?
— Прадай, бабка,
Чарнога!
— Ой мне чорны
Накуе жорны:
Таго не прадам!
— Прадай, бабка,
Лысага!
— Ой мне лысы
Памые місы:
Таго не прадам!
— Прадай, бабка,
Шэрага!
— Ой мне шэры
Вымеце сені:
Таго не прадам!
— Прадай, бабка,
Краснага!
— Ой, мне красны
Загародзе праслы:
Таго не прадам!
Бабка купцоў
Правяла,
Валы ў поле
Пагнала!.. [2]).

* * *

Сядзіць бабка
У запечку
На старэнкім
Кажушку.
А там мышы
Шалелі,
Бабкін кажух
Праелі.
Плача бабка
На печы:

[1]) Галічы, Клімавіцкага павету.

[2]) Галічы, Клімавіцкага павету.

РАДУНЬ. 17 лістапада нямецкія патрулі задзяржалі банду ў 15 чалавек. Пры спробе уцікаць уся банда была зьнішчапа.

БАРЫСАЎ. 23 лістапада ля вагзала Прыяміна на дэмаркацыйнай лініі была менка поездамі з нямецкім консульствам і расейскім пасольствам.

## Украіна.

ЛОНДОН. У Новарасійск і Севастополь прыбылі англіцкія ваенныя караблі.

КІЕЎ. (В.Т.Б.). 26.XI Нямецкія войскі занялі чыгунку Кіеў-Фастоў, а таксама лінію Сарны-Ковель.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

БЭРЛІН. 25.XI. Расейскі ўрад радаў аслабаніў цяпер нямецкіх генэральных консулаў у Маскве і Пецярбурзе і пазволіў ім выехаць у Нямеччыну. У адказ на гэта нямецкі ўрад пазволіў б. расейскаму паслу ў Бэрліне, Іоффэ, выехаць з Барысава ў Маскву.

## З Палестыны.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. У Палестыне ўтварыўся першы жыдоўскі ўрад з 9-х міністраў, між іншым, ваеннага, міжнародных спраў і земляробства.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 25.XI. На сягоняшняй імпэрскай конфэрэнцыі прадстаўнікі ўраду і большасьць аратараў выказаліся за магчыма хуткае скліканьне нацыянальнага Сэйму, бо толькі гэткім парадкам можна зрабіць мір з саюзьнікамі і збавіць Нямеччыну ад распаду. Асабліва дабіваліся хуткага скліканьня нацыянальнага сэйму прадстаўнікі паўднёвай Нямеччыны і клерыкалы заходу.

Урад Вюртэмбэрга паслаў тэлеграфную заяву, што пры спробе дыктатарства Бэрліна паўднёва-нямецкія гасударствы аддзеляцца. Нарэшце прынята рэзалюцыя, которая дамагаецца еднасьці Нямеччыны, магчыма хуткага скліканьня нацыянальнага сэйму і прызнае да скліканьня яго народным прадстаўніцтвам Работніцкія і Салдацкія Рады.

КЕЛЬН. Салдацкая Рада 4-й арміі паслала рэйхсканцлеру тэлеграму, у каторай кажа, што армія дамагаецца скліканьня нацыянальнага сэйму і не дапусьціць, каб доля Нямеччыны разьвязалася бяз учасьця ваякоў з фронту.

ДРЭЗДЭН. На агульных выбарах у Работніцкую і Салдацкую Руду 88.478 галасоў пададзена за мерных соцыялістаў і 5.500 за незалежных соцыялістаў.

БАЗЭЛЬ. 24.XI. Англіцкія газэты пішуць, што англіцкі ўрад ні ў якім прыпадку ня будзе весьці перагаворы з Работніцкімі і Салдацкімі Радамі, або з соцыялістычным урадам Нямеччыны. У Эльзас-Лётарынгіі саюзьнікі зараз-жа пасьля занятку разагналі ўсе Работніцкія і Салдацкія Рады, каторыя там былі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 25.XII. Штатс-сэкрэтар Лянсінг наказаў ад імя Вільсона Нямеччыне, што Амэрыка згаджаецца прывясьці емінныя прадукты ў Нямеччыну толькі пад варункам, што ў Нямеччыне ня будзе нарушаны грамадзкі парадак.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 27.XI. Міністэр емінных спраў заявіў у Манчэстэры, што еміна будзе найперш прывезена Англіі і саюзьнікам, потым нэўтральным, потым толькі можна будзе разглядаць пытаньне аб людзкасьці даставіць еміну ў Нямеччыну і Аўстрыю і то толькі, калі гэта будзе адпавядаць здаровай палітыцы.

МЮНХЭН. (В.Т.Б.). 26.XI. Работніцкія, Салдацкія і Сялянскія Рады дамагаюцца суду над асобамі замяшанымі ў абвешчаньні вайны, а таксама такімі, каторыя перашкаджалі спробам паразуменьня з непрыяцелям у часе вайны і, нарэшце, такімі, каторыя вінаваты ў упадку Нямеччыны.

ВЕНА. Афіцыяльныя кругі маняцца пачаць сьледзтва проці гр. Бэрхтольда, Чэрніна, некалькіх паслоў, высокіх урadнікаў ваеннага міністэрства, б. імпэратара Караля, эрцгэрцага Еўгеня, некалькіх генэралаў. Усе гэтыя асобы будуць абвінавачаны ў дапушчэньні вайны і ў розных паступках, што пацягнулі за сабой распад Аўстрыі.

МЮНХЭН. 25. XI. Профэсар Яффэ публікуе ў аўстрыяцкіх газэтах ліст, у каторым ён наказавае, што саюзьнікі ня раз падчас вайны прабавалі пачаць перагаворы аб міры на мерных варунках, але заўсёды дарма. У апошні раз сёлета вясной перад пачаткам вялікага нямецкага наступленьня. Але Людэндорф заявіў: „нам трэба спачатку яшчэ пабіць“. Пасля 24 гадз. пачалося нямецкае наступленьне.

БУДАПЭШТ. 26.XI. Француская глаўная каманда дамагаецца разброеньня і здачы арміі Макэнзэна, каторая не ачысьціла Вэнгрыі ў назначаны тэрмін.

БУКАРЭШТ. Румынская армія зойме 26 паветаў Вэнгрыі, на каторыя Румынія мае прэтэнзыі

БЭРЛІН. 26.XI У Брэмені большэвіцкі рух павялічваецца. Жыхары чакаюць прыбыцьця англіцкіх караблёў.

ЛОНДОН. Баварскі міністэр-прэзыдэнт заявіў, што Нямеччына павінна складацца з 4-х рэспублік: Баварыя, Нямецкая Аўстрыя, паўднёва-заходняя Нямеччына (Бадэн, Вюртэмбэрг, Гэссэн) і Прусы.

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман.» Рэдактар Язэп Салавей.